Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 25 сакавіка 1930 г. №. 12

## У дванаццатыя ўгодкі.

Дванаццаты ўжо раз Беларускі Народ спраўляе сваё нацыянальнае сьвята: угодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Дванаццаць гадоў назад у Менску найвышэйшая ўсенародная ўстанова Беларусі, Рада Рэспублікі, абвясьціла разарванымі ўсе тыя дзяржаўныя сувязі, якія былі накінены чужымі дзяржавамі вольнаму і незалежнаму Беларускаму Народу супраць волі ягонае. У гэтым акце зьмяшчаўся рашучы пратэст проці Берасьцейскае ўмовы, якую чырвоная Масква падпісала з чорным кайзэраўскім Бэрлінам, аддаўшы на ласку й няласку заходніх імпэрыялістаў Заходнюю Беларусь. У гэтым акце Народ Беларускі праз вусны сваіх лепшых сыноў выказаў сваю цьвёрдую волю, каб усе нашы землі, дзе беларусы складаюць большасьць, прадстаўлялі адзіную, непадзельную дзяржаўную арганізацыю, у межах якое былі-б і новая сталіца Беларусі—Менск, і старая—Вільня.

Акт 25 сакавіка 1918 году ня зьдзейсьніўся на дзеле. Лішне многа варожых сілаў ціскала на нашу Зямлю, лішне слабае было нацыянальнае ўсьведамленьне ў беларускіх масах. Але вялікі запавет, дадзены нам Радай Рэспублікі, не прагучэў, як пусты гук: ён знайшоў гарачы водгалас у душах лепшых сыноў Беларусі, стаўся тым сьветачам, што будзіць прысыпаныя сэрцы, ператвараўся ў усенародны Ідэал, які й вызначае наш шлях да будучыны.

Чым чарнейшая наша сучаснасьць, чым цяжэй нам жывецца пад уладай другіх народаў, тым ярчэй нам сьвеціць гэты сьветач, тым выразьней паўстае перад намі візія зьдзейсьненьня нашага Ідэалу. Бо ён, гэты Ідэал, перастаў ужо быць лятуценьнем групы рамантыкаў: лёс Радавае Беларусі, якую дратуе маскоўскі бот, ламаючы яе й без таго абмежаную самастойнасьць, ясна паказуе, што незалежнасьць — адзіны рэальны шлях да замацаваньня волі збудзіўшагася зо-сну Народу Беларускага, што гэта—абсалютная неабходнасьць, праз якую жыцьцё ня можа ані пераступіць, ані прайсьці міма.

Дык зусім натуральна, што незалежніцкі ідэал заваёвае сабе ўсё шырэйшыя і шырэйшыя ўплывы. Бо ня толькі беларускія сацыялісты, якія зьяўляюцца тварцамі акту 25 сакавіка 1918 году, ня толькі радыкальнае цячэньне беларускае палітычнае мысьлі, зьвязанае з слаўнымі традыцыямі Грамады, але і шырокія народныя масы, яшчэ ўчора нясьведамыя, захопліваюцца гэтым ідэалам. Навет старыя ворагі Рады Рэспублікі, што ў мамэнт абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі сталі вонках яе і ўсімі сіламі стараліся падкапаць яе павагу ў вачох нямецкае акупацыйнае ўлады, а цяпер працуюць над яшчэ адным падзелам Беларусі і „аддаюць“ Вільню й Горадню Літве,—навет і яны, каб здабыць веру да сябе ў сялянстве, стараюцца прыкрыць сваё запраўднае аблічча „незалежніцтвам“.

Сягодня, у дванаццатыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, мы шлема ва-ўсе куткі нашага краю словы прывітаньня й веры глыбокае ў нямінучае зьдзейсьненьне нашага нацыянальнага Ідэалу. Як і калі, — хто-ж можа гэта прадбачыць! Але трэба, каб мы і сягодня, і заўтра, і што-дня будавалі Беларусь бясспрэчнай творчай працай, каб пашыралі і паглыблялі нацыянальную сьвядомасьць у нашых працоўных масах, каб прыцягвалі гэтыя масы да чыннага ўчасьця ў закладаньні падвалінаў будучыны, бо толькі гэтак мы здолеем прыгатаваць грунт дзеля зьдзейсьненьня нашага Ідэалу, калі ўрэшце падыйдзе чаканая часіна.

## Пара адкрыць карты!

Толькі што выйшаў першы нумар новае часопісі ў беларускай мове: „На варце“. Выйшаў у Варшаве. Выдае яго—Беларускі Сялянска-Работніцкі Клюб („Змаганьне“).

Як і цэлы рад папярэднікаў, гэты орган Клюбу перапоўнены вулічнай лаянкай па адрасу нашае газэты, а таксама й тых беларускіх дзеячоў, якія пры ёй гуртуюцца. Найбольш бруду й лаянак вылівaецца, ведама-ж, на найстарэйшага з жывых яшчэ тварцоў сучаснага беларускага адраджэнскага руху, грам Луцкевіча, а побач з ім—на грам. Астроўскага.

Чаму і за што?

Мы бы не займаліся высьвятленьнем гэтага пытаньня, калі-б, як бывала раней, бруд выліваўся ананімна—за подпісам нейкіх няведамых, безадказных маральна „рэдактароў“, за якімі хаваліся „недатыкальныя“ паны паслы. Але цяпер часопісь выпушчана афіцыяльна Пасольскім Клюбам, ды ў ёй зьмешчаны камунікат за подпісам усяго Клюбу—з такой-жа ілжой і лаянкай. Паны паслы пераканаліся, што народ ужо пачаў правільна ацэніваць нашу і іхнюю работу,—і вось, бачучы перад сабой поўнае банкруцтва ў беларускіх масах, пастанавілі паставіць апошнюю стаўку ў змаганьні з незалежным беларускім радыкальным рухам: выкарыстаць павагу іменьня паслоў, павагу, якую стварылі ў вачох народу не яны, цяперашнія паслы, а—іхнія папярэднікі, што сягоньня сядзяць за кратамі: Тарашкевіч, Мятла, Рак-Міхайлоўскі і іншыя. Вось гэта і прымушае нас даць належны адказ.

Пасольскі Клюб у сваім афіцыяльным камунікаце піша, што „гэтая банда“ (мае значыць: Луцкевіч, Астроўскі і інш.) „калісь улезла ў Б. С. Р. Грамаду і ў Т. Б. Ш., каб нажыцца на народна-вызваленчым рэвалюцыйным руху“ і г. д... Каму ведама гісторыя беларускага вызвольна-адраджэнскага руху, той толькі плюне на падобны бруд, выдуманы панамі пасламі (ці іхнімі закулiснымі „настаўнікамі“), якіх, як „недатыкальных“, нельга навет пацягнуць пад суд за гэту агіду. Бо-ж і ў найцямнейшых кутках нашае вёскі людзі ведаюць, што не Гаўрылікі, Дварчаніны, Грэцкія ды іншыя Крынчыкі, а якраз гэтыя самыя Луцкевічы, Астроўскія і іншыя тварылі і Таварыства Беларускае Школы, і Грамаду—ды за гэту сваю працу „нажыліся“ тое, што ў працягу даўгога часу елі „казённы“ вастрожны паёк, пад той час, як цяперашнія паны паслы нос высунуць на сьвет божы баяліся... Але, раз яны ўжо зачапілі Грамаду, аб якой і далей пішуць усялякую ілжу,—дык мусім урэшце адкрыць карты даканца і заявіць перад нашымі працоўнымі масамі, хто-ж запраўды разграміў Грамаду і за што вядзецца агідная зьвяга на Луцкевіча, Астроўскага і інш. Даволі ўжо шулерства Камуністычнае Партыі і яе служак!

Мы будзем карыстацца выключна фактамі, агульна ведамымі і апублікаванымі на працэсе Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Іх можна праверыць у кожнага, хто сядзеў тады на лаве падсудных або прымаў учасьце ў абароне.

Як заявіў—сьмела й адкрыта—у сваім апошнім слове галоўны падсудны, павадыр Грамады, пасол Тарашкевіч, пракуратура беспадстаўна закідала Грамадзе, што тая быццам-то падпарадкавалася Камуністычнай Партыі. Праўда, Партыя рабіла спробы дабіцца такога падпарадкаваньня. Але калі Партыя запрапанавала Грамадзе прыступіць да тварэньня па вёсках „камітэтаў беднаты“, якія былі-бы зачаткам рэвалюцыйнае ўлады, Грамада дала гэтаму правакацыйнаму дамаганьню рашучы адпор: Грамада лішне добра ведала, што ніводзін чырвонаармеец не пераступіў-бы граніцы Польшчы ў выпадку выбуху беларускага паўстаньня, і гэтае паўстаньне хутка было-бы затоплена ў крыві беларускіх сялян...

Гэтым сваім дамаганьнем Камуністычная Партыя Польшчы хацела ня толькі „узарваць“ Грамаду, але і адным махам зьліквідаваць увесь беларускі вызвольна-адраджэнскі рух пад Польшчай, паставіўшы яго пад сьмяротны ўдар за пераход да яўна рэвалюцыйнае акцыі. Але Грамада на правакацыю не паддалася. І вось—выступае на сцэну цэлы рад сяброў Камуністычнае Партыі—правакатараў, якія даюць, быццам змовіўшыся, сьвядома ілжывыя паказаньні аб Грамадзе польскім уладам, каб ужо гэтым новым спосабам дабіцца свайго: разгрому „непакорнае“ Грамады. На судзе фігуравалі паказаньні такіх камуністычных „тузоў“, як Міхал Гурын, Кузьма, Більскі-Бабіч, Вышынскі — усе выдатныя сябры Камуністычнае Партыі Польшчы і Заходняе Беларусі. А побач з імі выступае чарада розных драбнейшых камуністаў-правакатараў—кшталтам Сьліжа, Ласёнка і ім падобных...

Мо' хто спробуе даказваць, што вінавата не Партыя, а гэныя правакатары? Добра. Але з каго-ж тады набіраецца Партыя? Гэта-ж усё перадавыя партыйцы! А на судзе—ужо пасьля выяўленьня правакатарскае ролі гэных „тузоў“ Партыі—сьведка ад паліцыі, Васілеўскі, рашуча заявіў, што інфармацыі, якія пераказаў суду, ён мае ад „свайго чалавека—з О. К.“ (значыць: з Акруговага Камітэту Партыі ў Вільні).

Дзе-ж канчаецца ў нас Камуністычная Партыя і дзе пачынаецца дэфэнзыва? Ясна, што граніцы паміж імі—няма! Дык і ня дзіва, што ўдары масаваму беларускаму руху, ведзенаму Грамадой, наносіліся з двух бакоў: рух гэты аказаўся роўна нямілым і абшарнікам, і абаронцам іх „стану посядання“—тэй жа дэфэнзыве, і ўрэшце—Камуністычнай Партыі Польшчы (ці яе філіі—Заходняе Беларусі), якой Грамада не падпарадкавалася. За тое-ж Партыя і дапамагла польскім уладам пасадзіць грамадаўскіх дзеячоў за краты, на лаву падсудных. Але—ня ўсіх: бо-ж некаторыя адзінкі, цяпер вельмі блізкія да Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу, нейкім „цудам“ асталіся на волі. На судзе ўся лава падсудных шырока расчыняла вочы і вушы, калі некаторыя сьведкі пракуратуры, відаць, ня ведаючы, з кім маюць дзела, пачалі паказваць аб адным гэткім панку*). Аб ім казалі, што ён быў сябрам „пяцёркі“ Камуністычнае Партыі Заходняе Беларусі, што прымаў учасьце ў неіснаваўшай, праўда, канфэрэнцыі ў Гданску. — „Дык чаму-ж яго няма тут з намі?“—пыталіся зьдзіўленыя грамадаўцы, якія ведалі, што Астроўскага і Шнаркевіча пацягнулі пад суд акурат за тую фантастычную канфэрэнцыю, а той панок астаўся на волі. Але за тое панок гэны ня траціў дарма часу на волі: ён—падчас разгрому Грамады—здалеў пралезьці ў Галоўную Управу ТБШ і на адным паседжаньні яе (улетку 1928 году) кінуў па адрасу Віленскае Беларускае Гімназіі крылатыя словы: „Мы“ пяць замкоў павесім на ёй, калі „нам“ гэта будзе патрэбна! І гэныя „мы“ пробавалі павесіць замок на гэтай нашай вялікай культурнай здабычы, ды—дзякуючы Астроўскаму—не ўдалося!

А вось цяпер паны паслы адважаюцца ў сваім афіцыяльным органе пісаць агідныя, брудныя словы, што не сябры іхніх сучасных „настаўнікаў“—не Гурыны, Кузьмы, Бабічы, Вышынскія і іншыя партыйцы-правакатары пасадзілі Грамаду (мы маем паказаньні гэных „таварышоў“ на пісьме ў матэрыялах працэсу Грамады), а што вінаваты ў гэтым... Луцкевічы ды Астроўскія! Дзе-ж нарэшце граніца подласьці камуністычных Азэфаў і іхніх прыслужнікаў?!

Луцкевіч, Астроўскі і іншыя падсудныя ў працэсе Грамады, якім удалося—пасьля даўгога й цяжкога сьледчага арышту—вырвацца пасьля адбытага суду на волю, былі абвешчаны Камуністычнай партыяй за „здраднікаў“. Чаму? Каго яны „здрадзілі“? Яны нікога ня здрадзілі—асталіся вернымі беларускай справе, але—рашуча заявілі: што ў барацьбе за волю беларускіх працоўных масаў яны ідуць самастойнай дарогай і падчыняцца Камуністычнай Партыі ня будуць. Яны заявілі, што ня хочуць дапамагаць камуністам-дэфэнзыўшчыкам, якія працуюць на два фронты, у заганяньні за вастрожныя краты ўсіх найлепшых, найбольш сьведамых і чынных працаўнікоў на беларускай ніве. Што ні ў якім выпадку не дадуць „вешаць замкі“ на беларускіх культурных установах, будаваных усім беларускім грамадзянствам у працягу доўгіх гадоў з нязвычайнымі матэрыяльнымі і маральнымі высілкамі. Вось за што Партыя і яе прыслужнікі гэтак лахаюць цяпер на тых, хто папсаваў ігру Партыі, хто ня даў зьнішчыць гэтых культурных здабыткаў нашых, хто абараніў ад ліквідацыі ТБШ, хаця і яго Партыя засудзіла на сьмерць, як засудзіла на разгром Грамаду.

Так выглядае праўда аб Грамадзе. Але, разграміўшы гэтую магутную беларускую масавую арганізацыю, Партыя пастаралася знайсьці сабе людзей, якія — карыстаючыся сваім беларускім

*) Імя гэтага панка было пададзена да ведама Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу, але гэта зусім ня зьменшыла даверра паноў паслоў да яго..

імем — ішлі бы пакорна па лініі, вызначанай наступнікамі Гурынаў, Кузьмаў, Бабічаў і Вышынскіх. Такімі людзьмі аказаліся новаабраныя паслы Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу. Самі па сабе яны — нішто: сваей уласнай лініі, сваей праграмы і тактыкі яны ня маюць. Яны гатовы заўсёды крычаць: „ура!“, калі таго зажадаюць іхнія „настаўнікі“ *). Яны праскочылі ў Сойм толькі затым, што сядзеўшым у вастрозе грамадаўскім паслом (Тарашкевічу і інш.), якія мелі быць пастаўлены на першых месцах у выбарных сьпісках, далі дзеля подпісу няправільна ўложаныя тымі-ж панамі-Дварчанінамі і Гаўрылікамі дэкларацыі аб згодзе выставіць сваю кандыдатуру. За гэтую няправільнасьць выбарныя камісіі паськідалі гэтых кандыдатаў са сьпіскаў, дый за тое-ж і праскочылі ў Сойм з „хвастоў“ кандыдацкіх сьпіскаў Дварчаніны, Гаўрылкі, Грэцкія ды Крынчыкі. А гэта людзі — гатовыя на ўсё, што ім прыкажа іхняе „начальства“. У іх няма ні чэсьці, ні сумленьня. І калі адзін з гэтае „цёплае кампаніі“ (імя пакуль-што не называем) учыніў глыбока антымаральны паступак, крыўдны для другога, дык паны паслы палічылі гэта за рэч зусім дапушчальную, і ня толькі ня выгналі вон такога нягодніка, але і сягодня працуюць з ім разам, падаюць яму руку ды разам п'юць гарэлку ў соймавым буфэце...

І такія людзі, якія запраўды-ж толькі ўчора „зрабіліся“ беларусамі, асьмеліваюцца выліваць бруды на тых, што ахвярай усяго свайго жыцьця, ахвярай асабістага шчасьця, ахвярай сваей свабоды даказалі і даказваюць сваю ідэйную і маральную чыстасьць!

Няхай-жа беларускія масы даведаюцца ўрэшце ўсю праўду аб дзеяльнасьці Камуністычнае Партыі Польшчы і аб адносінах яе да беларускае справы. Няхай зразумеюць, што мы маем тутака дзела не з запраўднымі, ідэйнымі прадстаўнікамі інтэрнацыяналізму, для якога ўсе народы — роўныя і маюць роўныя правы на жыцьцё і шчасьце, а з польскімі камуністамі, для якіх беларушчына так сама ненавісна, як ненавісна і для тых „чырвоных“ маскоўскіх нацыяналістаў, што грамяць цяпер культурныя сілы Усходняе Беларусі.

Годзе баламуцтва, годзе ілжы! Няхай нашы сяляне й работнікі ведаюць, што паны Дварчаніны, Гаўрылікі, Грэцкія і Крынчыкі — сьвядома, ці несьвядома, — станулі ў адзін рад з Гурынамі, Кузьмамі, Бабічамі і Вышынскімі дый выпаўняюць далей агідную ролю гэнае чацьверкі правакатараў, каторыя, як і яны цяпер, імкнуліся да разлажэньня і зьліквідаваньня ўсіх арганізацыйных цэнтраў Беларускага Народу, да „унешкадлівеньня“ ўсіх актыўных працаўнікоў на ніве беларускага вызвольна-адраджэнскага руху, да зьніштажэньня ўсіх беларускіх культурных цэннасьцяў.

Ганьба ім!

*) У сваім органе „На варце“ яны ажно „перастараліся“: з баранім энтузьязмам пішуць, быццам „сто мільёнаў сялян“ у СССР ідуць у калектыўныя гаспадаркі „самахоць“, пад той час, як ужо навет „сам“ Сталін, гэны Обэр-Азэф расейскае рэвалюцыі, зрабіў адбой і прызнаў факт заганяньня сялян у „калгасы“ — г в а л т а м!

# Пратэст беларускіх студэнтаў.

## Рэзалюцыя.

**Вынесена, на Протэстацыйным Мітынгу, ладжаным Студэнтамі Беларусамі У. С. Б. супроць перасьледаваньня Беларусаў праз бальшавіцкія ўлады ў Савецкай Беларусі, дня 18 сакавіка 1930 г.**

Беларуская студэнская моладзь Віленскага Унівэрсытэту востра протэстуе супроць жорсткага перасьледаваньня праз бальшавіцкія ўлады ў БССР усіх праяваў беларускага адраджэнскага руху, а імення:

1. Супроць бязьлітаснага разбураньня і нішчэньня — маскоўскімі камуністычнымі ўладамі ўсіх тых культурна-навуковых вартасьцяў беларускага народу, якія з непамернымі высілкамі ўдалося здабыць дагэтуль.

2. Супроць спыненьня нармальнай дзейнасьці Беларускай Акадэміі Навук у Менску шляхам выкіданьня з ліку яе сяброў заслужаных на ніве беларускае навукі і культуры людзей, шляхам уважаньня ўсяго беларускага антысавецкім і буржуазным, шляхам нападу на ўсе паважнейшыя праявы беларускай культурна-навуковай дзейнасьці.

3. Супроць жорсткага нападу і перасьледаваньня беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў за іхнюю нацыянальную сьвядомасьць і выяўленьне гэтае сьвядомасьці ў сваіх творах.

4. Супроць правакатарскіх нападаў на беларускіх культурных і грамадзкіх дзеячоў, выкіданьня іх з высокіх становішчаў Беларусі ды замены іх імпортованымі, варожымі беларускасьці, элемэнтамі.

5. Супроць арыштаў і ссылак на Салоўкі выдатнейшых беларускіх дзеячоў і культурных працаўнікоў, як Ф. Аляхновіч, В. Ластоўскі і многа іншых.

6. Мы протэстуем так-жа супроць эканамічнага і маральнага нішчэньня беларускага сялянства шляхам крывавага праводжаньня калектывізацыі, масавых расстрэлаў ды ссыланьняў у Сібір беларускага сялянства.

7. Протэстуем так-жа супроць ганебнага патаптаньня свабоды сумленьня і адвечнае традыцыі беларускага народу, якім ёсьць крывавае перасьледаваньне рэлігіі.

Бяручы ўсё вышэйшае пад увагу, сьцьвярджаем, што Масква ёсьць заўсёды забойчым ворагам Беларусаў, незалежна ад таго, у якім абліччу выступае: што сучаснае перасьледаваньне ўсіх праяваў беларускае думкі і творчае працы беларускага народу ў БССР ёсьць вынікам паходу расейскага шавінізму і вялікадзяржаўніцтва проці ўсяго беларускага.

Адначасна протэстуем супроць монополізаваньня беларускага руху ў Заходняй Беларусі праз маскоўскіх прыслужнікаў, як Беларускі Пасольскі Сялянска-Работніцкі Клюб і іншыя. Ганьба ім!

Схіляюы з пашанаю свае галовы перад усімі ахвярамі маскоўска-камуністычнага тэрору ў БССР, перад усімі, тымі якія, ня гледзячы на ўсе крывавыя перасьледаваньні, горда трымаюць свой нацыянальны штандар, выражаем: Слава! Слава Ім!

Нашым народным абавязкам ёсьць непрымірымае змаганьне з забойчым наступам маскоўскага камунізму проці ўсіх праяваў беларускага вызваленчага руху, да чаго і заклікаем усё беларускае студэнства і беларускі народ наагул.

Беларуская студэнская моладзь заяўляе перад усім культурным сьветам і перад нашымі ворагамі, што беларускі адраджэнскі рух, перайшоўшы цярністы шлях крыві і магілаў, ня умрэ, бо ён ёсьць агульнанародным імкненьнем, бо за яго кожны з нас гатоў жыцьцё сваё злажыць у ахвяры.

Дык проч усякія агранічэньні прыродных правоў беларускага народу! Проч усякія нішчэньні і разбураньні ўсяго таго, што ёсьць нам найміленйшым! Проч маскоўска-камуністычны чырвоны тэрор у БССР!

Няхай жыве Вольная Злучаная і Незалежная Беларусь!

# Проці-калгасны „НЭП“.

**(Новы цыркуляр Сталіна).**

Так яшчэ нядаўна захоплівалася ўся радавая прэса—усьлед за Сталіным—„головокружительными усьпехамі калгаснай кампаніі, ці „новай рэвалюцыі проці дробна-буржуазнай стыхіі сялянства“, як неспадзявана (?) з партыйных вярхоў дадзены вось новы „сыгнал часу“, які рашуча ламае гэтую „нову рэвалюцыю“, спыняючы, ці прыпыняючы распа тую „кампанію“... Цэнтральны камітэт кам. партыі выдаў і разаслаў па ўсім СССР цыркуляр, у каторым закідае органам радавай улады на мясцох „скрыўленьне партыйнай лініі“ ў калгаснай кампаніі і трэбуе безадкладна „выпраставаньня“ гэтай лініі. Новы цыркуляр Сталіна загадывае спыніць усе меры гвалту і прынукі, паправіць усе памылкі (!), якія зроблены на мясцох пры „раскулачваньні“ вёсак, трэбуе паправіць (!) усе крыўды, якія былі зроблены пры гэтай „кампаніі“ сярэднякам, беднякам і пралетарскай вясковай інтэлігэнцыі... Мясцовым уладам загадываецца зноў дазволіць сялянам вольную прадажу сельска-гаспадарчых прадуктаў на рынках і г. д.

Вярхі камун. партыі робяць від, быццам яны толькі цяпер угледзілі, што калгасная кампанія праводзілася на мясцох мерамі паліцэйскага гвалту і аружнай прынукі, а зусім не самахоць, як пісалі казённыя пісакі ў радавай прэсе. У запраўднасьці Цэнтр дасканала ведаў аб усіх гвалтах і надужыцьцях, бо-ж сам—пад камандай Сталіна—і загадаў усю гэтую „кампанію“ дый кіраваў „новай рэвалюцыяй“... Гэта-ж ужо ў канцы мінулага году цэлы рад выступленьняў Сталіна і загадаў з партыйнага цэнтру ясна і выразна казалі аб неабходнасьці гвалту й прынукі, каб скрануць з места дый разьбіць „буржуазную псыхіку“ і... гаспадарку сялянства... З цэнтру йшлі і ў новым годзе загады „базьлітасных расправаў“ з „кулакамі“—„вплоть до расстрела на месте—без суда и следствия“... За ўсякія перасьцярогі з боку „правай апазыцыі“—аб нябясьпецы гэткай шалёнай акцыі зьніштажэньня існуючых сялянскіх гаспадарак, калі не падрыхтаваны яшчэ калектыўныя гаспадаркі, апазыцыянераў выкідалі ў Сібір, на Салоўкі. Пацярпеў за гэтыя перасьцярогі „сам“ Бухарын, ды амаль ня скінуты быў навет „сам“ Рыкаў... Навет бліжэйшыя з ад'ютантаў Сталіна жахаліся на думку аб загадзе Сталіна—зьніштожыць фізычна 5 мільёнаў „кулакоў“... Дык, праводзячы на мясцох загад аб зьніштажэньні гэтых 5 мільёнаў „кулакоў“, мясцовыя ўлады толькі шчыра й сумленна выконвалі ясны й выразны плян апрацаваны цэнтрам... Да таго-ж неяк ня чутна было, каб хтось з „перадаўшых“—у сваім захопленьні „кампаніяй“ проці сялянскай „буржуазнай стыхіі“, пацярпеў якую кару—за такія „драбніцы“, як спаленьне „слаба-калгаснай“ вёскі, ці расстрэл не даволі сьцьверджанага „кулака“...

І вось раптам—адбой, ці „перадышка“, ці нейкі калгасны „НЭП“—пасьля таго, як ужо 2 прац. ўсіх сялянскіх гаспадарак пераведзены на калгасы (?!) (лічба дадзена на 1 лютага).

Зразумела, што спыненьне, ці прыпыненьне калгаснай кампаніі было выклікана зусім рэальнымі прычынамі, а не нейкім пераломам у „партыйнай лініі“ камуністычнага цэнтру. Ад праграмы сваей—разбурыць векавы сялянскі лад—Сталін адмаўляцца ня думае. Наадварот—гэты „НЭП“ на калгасным фроньце, як і былы „НЭП“ на фроньце гандлёва-прамысловым мае мэтай дапамагчы выканаць праграму калектывізацыі.

Дагэтуль зруйнавана якраз палова (52%) ўсіх сялянскіх гаспадарак вялізарнага СССР, якія кармілі ўвесь край хлебам. Награбіўшы з гэтай паловы вялізарныя масы ўсялякага дабра і збожжа, сталінаўскія агенты забясьпечылі ад голаду пралетарскае места. Другая палова сельскіх гаспадарак, яшчэ пакуль-што ўцалеўшых, якраз і мае задачай пракарміць хлебам і сябе, і выкіненую ў негатовыя калгасы другую палову сялянства, пакуль мо' неяк „падрыхтуюцца да працы“ калгасы...

Уплыў на „перадышку“ аказаў страшэнны аружны адпор з боку гнанага ў калгасы сялянства, якое пачало масова адказываць на гвалты крывавымі расправамі з калгаснымі атрадамі. Аказала яго і страшэннае абурэньне на ўсім сьвеце проці зьверскіх масовых бойняў сялян, у якія часта ператвараліся наезды калгасных інструктароў...

Такім чынам, новы цыркуляр Сталіна толькі прыкрывае харошымі словамі чыста і выключна тактычны крок, да якога змушаны радавы ўрад рэальнымі сіламі і фактамі, з якімі ня мае даволі сілаў бароцца. Але ня трэба думаць, што Сталін і яго „рада“ адмовіліся ад сваей шалёнай думкі завясьці—замест вольнага земляробства ў СССР—„сацыялістычную“, ці вярней: ваенна камуністычную паншчыну, якая, як пісаў нядаўна знаменіты расейскі сацыёлёг Пітірым Сорокін, існавала акурат 40 вякоў назад у старадаўным Эгіпце і—счэзла бяз сьледу!

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Тварэньне новага ўраду і Сойм.

Зусім не спадзявана Польшча ізноў апынулася ў стане ўрадавага крызісу, які зьяўляецца асабліва небясьпечным з пагляду на нязвычайнае завастрэньне гаспадарчага крызісу.

Прэзыдэнт прыняў адстаўку прэм. Бартэля і даручыў стварэньне новага габінэту старшыні Сэнату праф. Шыманскаму. Праф. Шыманскі, як сьцьвярджае амаль не аднагалосна ўся польская прэса,—кандыдатура наймені спадзявана для ўсіх, якія толькі можна выдумаць, асабліва ў такі цяжкі мамэнт палітычнага і гаспадарчага крызісу, калі ня даў рады з абыдвума крызісамі маючы вялікую практыку ў галіне кіраваньня дзяржавай прэм. Бартэль, дык што-ж казаць аб праф. Шыманскім, які па спэцыяльнасьці ёсьць доктарам-акулістам, а ў справах дзяржаўных—зусім „новы чалавек“. На становішчы старшыні Сэнату паказаў толькі сваю поўную неадпаведнасьць. Але вельмі добра, што ў сваіх заявах пасьля свайго назначэньня — ён выказаў добрую волю прылажыць усе сілы, каб давясьці да згоды і супрацоўніцтва паміж Соймам і ўладаючымі коламі ў Польшчы.

Вельмі характэрна для п. Шыманскага, як будучага прэм'ера, і тое, што запрашаючы на канфэрэнцыі розныя соймавыя клюбы і партыі, ён не абмінуў беларусаў і ўкраінцаў. Гэты факт—яшчэ нябывалы ў летапісях адроджанай Польшчы. Праўда, з гэтых канфэрэнцыяў з беларусамі, пэўне-ж нічога ня выйдзе, але ўсё ж і гэты факт сьведчыць аб яго добрай волі.

Цікаўна ўрэшце, хоць з іншае прычыны, яшчэ і тое, што новы прэм'ер, запрасіўшы прадстаўнікоў кожнай соймавай групы ў свой габінэт, зараз-жа клікаў фотографа, каб той „увекавечыў“ (для памяці), — як казаў сам п. Шыманскі, гэты мамэнт...

Які асабовы склад будзе мець новы габінэт, аб гэтым ідуць толькі розныя чуткі. Няведама навет, які наагул характар будзе мець новы ўрад. Сам пр. Шыманскі аднак заявіў, што дагэтуль усё ідзе, як па маслу, і ў сярэдзіне гэтага тыдня ён будзе мець новы габінэт.

Але ў польскай прэсе чутны галасы вялікага сумліву адносна да ўсей гэтай акцыі п. Шыманскага. Некаторыя органы не адносяцца навет паважна да яе.

Сойм—у выніку неспадзяванага крызісу—апынуўся ў даволі дражлівым палажэньні. Да канца бюджэтнай сэсіі асталося некалькі дзён, а працы Сойм мае яшчэ шмат. Насамперш—ня скончаны яшчэ разгляд бюджэту, які ўжо вярнуўся ў Сойм з папраўкамі, пароблёнымі Сэнатам, і трэба іх усе разглядзець ды зацьвярдзіць канчальна бюджэт.

Есьць і яшчэ шмат в. пільных спраў. Але вось, існуе „звычай“, што ў часе ўрадавага крызісу парлямант прыпыняе ўсякую працу, навет—у камісіях... Што-будзе, калі ўрадавы крызіс, ліквідацыя якога да таго-ж папала ў такія, як кажа апазыцыя, няўмелыя рукі, як новы кандыдат прэм'ера, зацягнецца?! Вось, каб ня было закіду, што такое палажэньне стварыў і не знайшоў з яго выхаду Сойм, ён пастанавіў працаваць і ў часе ўрадавага крызісу... Аб гэтым заявіў старшыня Сойму Дашынскі, падаўшы п. Прэзыдэнту сьпісак неадкладных справаў, якія Сойм павінен закончыць.

Але раптам проці гэтай пастановы з нячуванай рэзкасьцяй выступіў клюб „Б. Б.", які ў сваім камунікаце заявіў, што будзе працівіцца адбыцьцю паседжаньняў Сойму ў часе крызісу, „ня спыняючыся перад найвастрэйшымі спосабамі"... Ня гледзячы на гэту пагрозу, старшыня Сойму мае назначыць паседжаньне на гэты чацьвер.

Ясна, што барацьба навакол Сойму завастраецца...

## Заграніцай.

### Правал Лёнданскай Канфэрэнцыі.

Пасьля перарыву, выкліканага францускім урадавым крызісам, канфэрэнцыя ўзнавіла сваю працу. Але францускія міністры паехалі ў Лёндан, як відаць, толькі дзеля таго, каб пацьвярдзіць немагчымасьць паразуменьня ў справе прапорцыянальнага павялічэньня марскіх збраеньняў, (бо-ж аб „разбраеньні" няма ніякай мовы!) і тым высьвятліць няўхільнасьць правалу ўсей канфэрэнцыі.

Галоўная спорка, на якой канфэрэнцыя, здаецца, можа ўжо лічыцца разьбітай, датычыць дамаганьня Італіі — мець роўнай сілы флёт з Францыяй.

Ня гледзячы ні на якія намовы й націск з боку навет магутнай Амэрыкі, якая пагражае біць далярам перажываючую цяжкі фінансава-эканамічны крызіс Італію, апошняя стаіць на сваім. І толькі-што зробленая пастанова Вялікай Фашыстаўскай Рады канчальна замацавала няўступлівае становішча Італіі. Францыя гатова ўжо была згадзіцца на роўнасьць флётаў з Італіяй, але толькі з тэй умовай, што за гэта Англія і Амэрыка загарантуюць дадаткава яе бясьпечнасьць на Сяродземным моры—таксама, як Англія загарантавала нятыкальнасьць нямецка-францускай і нямецка-італьянскай граніцаў Лёнданскім трактатам. Але, як Англія, так яшчэ больш Амэрыка — рашуча адкідаюць думку аб такім супольным гарантыйным пакце аб так званым „Сяродземным Лёкарно".

Не дайшло яшчэ, здаецца, да канчальнага паразуменьня і паміж трыма „акіянскімі дзяржавамі"— Амэрыкай, Англіяй і Японіяй. Японія дамагаецца, каб падвысілі яе „долю" ваеннага флёту з 6 адзінак да 7 на кожныя 10 прызнаных Амэрыцы і Англіі. Але Амэрыка рашуча адмовіла. Урэшце, запрапанавала замест 70% ангійскага і амэрыканскага флётаў, як хоча Японія, толькі 67%. Японская дэлегацыя пераслала прапазыцыю ў Токіо, скуль і спадзяюцца памыснага адказу, якога аднак-жа вось ужо некалькі дзён, няма й няма.

Урэшце 21 сакавіка Брыян, пасьля апошняй рашучай гутаркі з старшынёй італьянскай дэлегацыі Гранді, — разам з усей францускай дэлегацыяй выехаў з Лёндану ў Парыж, заявіўшы МакДональду, у якога на разьвітаньне „дыплёматычна" паабедаў, што вернецца ў Лёндан толькі тады, калі з боку марскіх дзяржаваў будуць высунутыя новыя прапазыцыі.

Такім чынам канфэрэнцыя можа лічыцца разьбітай, прынамся ў гэты мамэнт...

Падчырківаем яшчэ раз, што канфэрэнцыя ў справе марскога „разбраеньня" разьбілася на спорах аб тым, на сколькі кожная дзяржава мае права павялічыць свае марскія збраеньня. Характэрная крывадушнасьць з боку вялікіх валадароў сусьветнага імпэрыялізму!

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

## Кароткія навіны.

З Менску паведамляюць, што Ц. К. Камун. Партыі Беларусі загадаў зачыніць латвійскае, польскае, літоўскае і жыдоўскае бюры Партыі. Латвійскае бюро месьцілася ў Полацку, рэшта ў Менску. Праца ўсіх гэтых бюраў перадана спэцыяльным органам Кам. Партыі Беларусі. Матыў гэтай „рэформы" — нацыяналістычны ўхіл у працы гэтых бюраў, які пераважваў над „камуністычнымі імкненьнямі" ў іх...

Як пішуць з Бэрліну, адны з прычынаў, змусіўшых Сталіна даць адбой у „калгаснай кампаніі", зьяўляецца цэлы рад аружных паўстаньняў сялян на Каўказе, у Палтаўскай, Кацярынаслаўскай губэрні і інш. Адзначаюць учасьце ў паўстаньнях чырвонаармейскіх, якія—замест растрэліваць паўстаўшых сялян—забіваюць сваіх камандыроў.

Румынскія газэты даносяць, што атрад радавых войск—у складзе 165 жаўнэраў пры 11 афіцэрах — прайшоў граніцу, каб аддацца ў рукі румынскіх уладаў.

Францускі пасол у СССР выехаў з Масквы, куды быццам ня мае вярнуцца. Наагул адносіны паміж Францыяй і радавым урадам псуюцца ўсё балей.

Памёр лёрд Бальфур, ведамы англійскі дзяржаўнік, быўшы некалькі разоў прэм'ерам і міністрам.

Памёр былы „слаўны" дыктатар Гішпаніі, — гэн. Прыма дэ Рывэра. Адна з францускіх газэтаў публікуе сэнсацыйную рэвэляцыю, быццам — пасьля сваей адстаўкі — слаўны гэнерал—„апора гішпанскага трону",—рыхтаваў паўстаньне проці караля Альфонса.

# За каго галасаваць?

(Да перавыбараў паслоў у Лідзкім вокрузе).

На 25 мая вызначаны перавыбары паслоў у Сойм у Лідзкім выбарным вокрузе. На гэтых выбарах на галасаваньне будуць пастаўлены ня толькі старыя кандыдацкія сьпіскі, што былі прызнаны правамочнымі ў 1928 годзе, але й тыя, якія выбарная камісія была ўняважніўшы, ды яны на пастанову яе пажаліліся ў найвышэйшы суд.

У сувязі з гэтым на новых выбарах перад беларусамі паўстане пытаньне: за каго-ж галасаваць? Яно ясна, што кожын сьведамы грамадзянін, кожын запраўдны беларус будзе галасаваць не за чужацкі, а за свой, беларускі сьпісак. Але, калі ў 1928 годзе ў Лідзкім вокрузе быў прызнаны правамочным толькі адзін беларускі сьпісак (№ 41), з якога і прайшлі ў Сойм два паслы: доктар Ян Станкевіч і Флегонт Валынец,—дык цяпер побач будзе выстаўлены і другі сьпісак з беларускімі кандыдатамі: сьпісак блёку нацыянальных меншасьцяў (№ 18). І вось перад кожным выбаршчыкам паўстае пытаньне: за які-ж з гэтых двух нумароў падаць свой голас?

Пытаньне гэтае — вельмі паважнае. Вёска ўжо пачала задумывацца над тым, які зрабіць выбар. Да нас зьвярнуўся цэлы рад асоб з пісьмамі, пытаючыся, што-ж ім рабіць? І гэта прымушае нас выясьніць перад грамадзянствам справу новых выбараў так, каб ні ў кога ня было ніякіх сумліваў адносна да пытаньня, як галасаваць.

Думаем, што нашае асьвятленьне справы трапіць да перакананьня кожнага шчырага беларуса, бо мы, прадстаўнікі беларускага незалежнага радыкальнага кірунку, ні той, ні другі сьпісак ня можам лічыць сваім. На адным, № 41, бачым — побач з іншымі—імя аднаго з сяброў пасольскага клюбу „Змаганьне", які — „у імя сусьветнае рэвалюцыі" змагаецца з усімі праявамі самастойнага вызвольна-адраджэнскага беларускага руху пад Польшчай — на радасьць двух заклятых нашых ворагаў: „чырвонага" маскоўскага нацыяналізму і „чорнага" польскага. Другі сьпісак — „блёку нацыянальных меншасьцяў" (№ 18)—абыймае кандыдатаў выключна беларускіх хадэкаў, сельсаюзнікаў і жыдоў. Дык ясна, што і гэты сьпісак — ня наш: з ім нам не падарозе. Вось чаму, вырашаючы пытаньне аб тым, за каго галасаваць, мы будзем больш бесстароньнімі, чым хто небудзь іншы.

Мы займаем такое становішча. Маючы да выбару два выхады, з якіх ніводзін не адпавядае нашаму прынцыповаму пагляду, мы прымушаны падыйсьці да ацэнкі сьпіскаў №№ 18 і 41 выключна з пункту гледжаньня большае ці меншае пэрсанальнае карыснасьці або шкоднасьці выстаўленых на іх кандыдатаў. Затрымаемся-ж на разглядзе кожнага з іх паасобку.

**Сьпісак № 41:**

1. Доктар **Ян Станкевіч**. Быў выбраны за пасла ў 1928 годзе. Адзіны з беларускіх паслоў, які праводзіў час не па варшаўскіх рэстаранах, а —у бязупынных разьездах па сваім выбарным вокрузе, дзе закладаў беларускія школы, Кнігарні, гурткі „Зьвязу", бібліатэкі-чытальні, драматычныя дружыны і г. д. Адным словам: займаўся творчай культурнай працай.
2. **Флегонт Валынец**. Быў выбраны ў Сойм аднача сна з д-рам Янам Станкевічам, з якім пасьля выбараў разыйшоўся і далучыўся да групы Дварчаніна. Займаўся ўвесь час выключна правядзеньнем палітыкі клюбу „Змаганьне", ніякае пазытыўнае беларускае працы ня вёў,
3. **Юстын Мурашка**. Працаўнік на культурна-гаспадарчай ніве. Працаваў у беларускай каапэрацыі.
4. **В. Казлоўскі**. Чалавек працоўны (шавец) добра ведамы ў Ашмяне.

На далейшых кандыдатах, пераважна сялянах — скромных працаўнікох на вёсцы, спыняцца тут ня будзем, бо на праходжаньне іх няма надзеі. Гэтак сама і са сьпіску № 18. разгледзім толькі першых чатырох кандыдатаў. Вось яны:

**Сьпісак № 18.**

1. **Адам Більдзюкевіч**. Працаваў з сельсаюзьнікамі. Расстаўся з імі. Пасьля гэтага заклаў у Вільні польскую школу.
2. **Янка Пазьняк**. Просім ня блутаць з Янам Пазьняком, старым супрацоўнікам даваеннага органу беларускіх ксяндзоў „Biełarus". Гэты — кандыдат на сьпіску № 18 — падпісывае, як адказны рэдактар, „Беларускую „Крыніцу".
3. **Жыдоўскі кандыдат адвакат Чэрніхоў**. Нічога благога аб ім сказаць ня можам. Наадварот, быў-бы для нас дужа карысным, калі-б быў беларусам, а ня жыдам.
4. **Язэп Яковіч**. Польскі ўрадовец, працуе ў Лідзкім Старостве.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Падумайце цяпер, грамадзяне-выбаршчыкі, на якім з гэтых двух сьпіскаў больш адпаведныя пэрсанальна кандыдаты, і ў сувязі з гэтым зрабеце свой вывад, за каторы з іх—41 ці 18—галасаваць. Нам здаецца, што выбар можа быць толькі адзін: гэта — сьпісак № 41.

У адной стацьці вычарпаць справу выбараў у Лідзкім вокрузе — немагчыма. І мы йшчэ будзем да яе варочацца.

Ю. Л.

# Хроніка.

× **Канфіската „Напераду" зацьверджана судом.** Віленскае Гродзкае Староства афіцыяльна паведаміла Рэдакцыю нашае часопісі, што Акружны Суд пастановай сваей з 14 лютага 1930 году на прапазыцыю Пракуратуры зацьвярдзіў канфіскату № 5 „Напераду".

Як ведама, канфіската была зроблена за надрукаваньне ў гэтым нумары пратэсту проці крыўдных адносінаў да беларусаў у Польшчы і ў СССР, які быў вынесены зьездам Аб'яднаньня Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў у Празе Чэскай.

× **Выступленьне беларускіх студэнтаў проці праследаваньня беларусаў савецкімі ўладамі.** 18 сакавіка адбылася веча студэнтаў-беларусаў, склікане беларускім Студэнскім Саюзам Віленскага Унівэрсытэту.

На веча сабралася ўся беларуская студэнская моладзь бяз розьніцы палітычнага кірунку апрача зробленае жмені „камунізуючых". Пасьля ўступнага слова студэнта К. Гліскага прачыталі абшырныя рэфэраты аб распачатым Сталіным паходзе проці беларусаў у БССР студ. А. Бартуль і С. Станкевіч. Пасьля абмену думкамі аб закранутай справе, так балючай для кожнага запраўднага беларуса, студэнты аднагалосна прынялі рэзалюцыю, тэкст якое друкуем у гэтым нумары падробнасьцяй.

Пасьля веча вялікшая група студэнтаў пайшла пад сэкрэтарыят Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу і зрабіла там варожую да паноў паслоў дэманстрацыю. Пасол Дварчанін асабіста пабег па паліцыю, але да яе прыходу студэнты сарвалі і патапталі вывеску сэкрэтарыяту. Падобная-ж маніфэстацыя была зроблена перад беларускім Каапэратыўным Банкам, дзе таксама сарвана вывеска.

Зусім разумеючы абурэньне беларускае студэнскае моладзі на тых людзей, якія злоўжываючы імем прадстаўнікоў народу беларускага, ідуць рука ў руку з маскоўскімі „чырвонымі" нацыяналістамі ў іх барацьбе з беларусамі, — мы, аднак, мусім высказаць свой сум, што моладзь наша ня ўмее зьдзержываць сваіх нэрваў і пускае ў ход фізычную сілу, там, дзе можна і трэба змагацца толькі сілай маральнай. Зрываньне вывесак і падобнага да гэтага зусім не павялічывае павагі пратэсту, слушнасьць якога не патрабуе ніякага падтрыманьня фізычнага характэру.

× **„Суд пад Марцінам Эдэнам".** Вучні VIII клясы Віленскае Беларускае Гімназіі зладзілі ў мінулую суботу, 22 сакавіка, літэратурны суд над гэроям повесьці Джэка Лёндана „Марцін Эдэн". „Суд" выклікаў вялікае зацікаўленьне сярод усіх старэйшых вучняў гімназіі, якія прыслухоўваліся расправе з вялікім зацікаўленьнем. „Пракуратура" (тры вучні) закідала Эдэну антыграмадзкі кірунак і вінавапіла яго ў тым, што, дасягшы бліскучае ўдачы ў сваей літэратурнай творчасьці, здабыўшы багацьце і папулярнасьць, ён ня выкарыстаў усіх магчымасьцяў дзеля працы для грамадзянства і закончыў жыцьцё самагубствам. „Адвакаты" (тры вучні адна вучаніца) даводзілі, што Эдэн сваей літэратурнай творчасьцяй служыў грамадзянству, а самагубства ўчыніў толькі затым, што быў хворы духова. „Лава прысяжных" (вучні VIII, VII і VI кл.) прыхілілася да пагляду абаронцаў Эдэна і апраўдала яго.

Падобныя літэратурныя суды маюць для моладзі вялікае значэньне, бо прывучаюць яе глыбей задумацца над жыцьцём і выясьніць свае адносіны да яго праяваў. Пажадана, каб і вучн другіх беларускіх гімназіяў ладзілі гэткія „суды".

× **Дамаганьні праваслаўных беларусаў.** 14 сакавіка г. г. адбылася ў Вільні першая Беларуская Праваслаўная Канфэрэнцыя.

Канфэрэнцыя, прыймаючы пад увагу, што стварыўшаяся палажэньне Праваслаўнай Царквы на Беларусі—ёсьць анармальнае, і што ў гэтым галоўным чынам вінавата чужацкае русыфікатарскае Прав. Духавенства, якое адыйшло ад народу і стварыла сваю асобную касту, ды што гэта не адпавядае духу Праваслаўнае Царквы на Беларусі, пастанавіла правесьці карэнныя рэформы:

1) Беларусізацыя Кансысторыяў.

2) Беларусізацыя Духоўнае Праваслаўнае Сэмінарыі ў Вільні.

3) Утварэньне Праваслаўных Камітэтаў пры прыходах.

4) Увядзеньне казаньняў у мове беларускай.

5) Навука рэлігіі ў мове беларускай.

6) Увядзеньне казаньняў у войску для беларусаў у мове беларускай.

7) Увядзеньне мовы беларускай, як афіцыяльнай, ува ўсіх духоўных установах, а таксама ў кнігах мэтрычных побач з мовай дзяржаўнай, гдзе гэта вымагаецца.

8) Падтрыманьне беларускага духавенства.

9) Высьвятленьне справы падаткаў на карысьць кансысторыяў.

10 Інтэрвэнцыя ў справе рэвіндыкацыі (адбіраньня) Цэркваў праваслаўных.

11) Дамагацца скліканьня перадсаборных сабраньняў з прадстаўнікоў духавенства і верных,

а таксама прадстаўнікоў ад беларускіх праваслаўных арганізацыяў.

12) Дамагацца окліканьня Агульнага Ўсепольскага Праваслаўнага Сабору.

Ня гледзячы на непрыхільныя адносіны з боку вышэйшай духоўнай улады, на гэтую канфэрэнцыю прыбылі ў вялікім ліку прадстаўнікі эпархіяў Віленскай і Горадзенскай, а таксама шмат сьвяшчэнікаў, якія, з прычыны адмовы ў багаслаўленьні праз арх. Хвядосія, чыннага ўчасьця ў канфэрэнцыі браць не маглі.

Канфэрэнцыя выбрала Камітэт з 12 асоб, у склад якога ўваходзяць і адзінкі, на-жаль неадпаведныя. Выбраны завочна ў склад Камітэту сьв. А. Коўш але ад учасьця ў ім адмовіўся.

# Карэспандэнцыі.

## Зьбегла „навучыцелька“.

(Юрацішкі, Валожынскага павету).

У вёсцы Коркінента (даўней Каркіняты), Юрацiскай гміны, была польская школа. Думаю: вось тутака ёсьць шмат хлапцоў, дык знайду сабе пастушка, як скончацца навукі. Падыходжу да гэтага будынку, гдзе мясьцілася школа, бачу — але тутака няма нават і вывескі! Пытаюся: ці ня перанесьлі школу ў другую хату? А мне кажуць, што „навучыцелька“ сама зьбегла, бо ня мела магчымасьці згаварыцца з дзяцьмі. Яна да вучняў папольску, а вучні да яе пабеларуску. Апрача таго ў нас ёсьць такі звычай: калі хто прыдзе ці заедзе ў вёску, дык зара ў тую хату зьбяруцца ўсе. А тутака сама вучыцелька; як-жа з ёй не пагаманіць? Усе да яе пабеларуску, а яна папольску, і як адзін аднаго не зразумелі, дык пачалі нашыя рагатаць. Вучыцельцы гэта не спадабалася.

Іду да хаты. Праўда, знайшоў і пастушка. А сустракаю праваслаўнага сьвяшчэньніка. Пытаюся: куды, бацюшка, едзеце? А ён кажа: да школы ў Коркіняты; трэба дзетак вучыць Закону Божага.

Я бацюшцы расказаў, што вучыцелька ўцякла, і што навет вывескі няма. Бацюшка, не дастаўшы афіцыяльнага паведамленьня, паехаў. Але-ж ускорасьці вярнуўся, як даведаўся сам на месцы.

Гаспадары гэтым здаволены, кажучы, што ад такога навучаньня чужых нам „научыцелек“ карысьці няма, бо дзеці ходзяць 2—3 зімы а чытаць ня могуць, рахунку ня ведаюць ды толькі за дарма марнуюць час.

Беларус.

## Як скора забыліся свайго роднага.

(В. Кульгаі, Празароцкай гміны, Дзісненск. пав.).

16.II с. году у вёсцы Кульгаёх ставіўся польскі спэктакль і вечарына стараньнем мясцовага зучыцельства польскай школы. Выпаўнялі ролі нашы сябры беларусы, якія вельмі стараліся, а ўсёж выхадзіла ў іх няўдала. Прычынай гэтай няўдаласьці было тое, што гэтыя артысты мала знаёмы з польскай мовай. Дык вось, калі гэтыя артысты йшчэ толькі браліся вучыцца ролі, адзін сябра Т. Б. Ш. кажа ім: дарагія сябры, вазьміцеся лепш за сваё роднае беларускае. На гэта яму адна з гэных артыстак: „у нас дзеці умеюць гутарыць многа сьмяшлівых і адрэчных словаў, а нам не патрэбна ўжо гэтага вучыцца!“ Балюча абыйшло гэта сябру яе.

Дык вось, дарагія кульгяйскія артысты, якія вы сьляпыя, што ня бачыце на сабе сьмеху й адрэчнасьці, калі вы ламалі полскія словы, зусім вам чужыя, перад публікай на сцэне! Гэта-ж толькі выклікала сьмех з вас і кпінкі!

Глядзельнікаў, праўда, было зусім мала, бо нашы сябры не хацелі ісьці на гэты фашыстоўскі спэктакль.

Не хачу падаваць прозьвішчаў гэтых панскіх рукалізаў; але пара ўжо кульгайскай моладзі прачхнуцца зо сну і пайсьці за прыкладам сваіх братоў да працы на ніве беларускай асьветы!

Гіндзін.

## Атруціліся, два злоты!

(Вёска Хлюпічы, Жухавіцкай воласьці, Стаўпецкага павету).

У нашай вёсцы сяляне найбольшаю часьцю бедныя, маюць адно па дзьве з палавінаю дзесяціны зямліцы надзельнай, заработкаў няма, хлеба свайго не хватае. Хоць ты няма ведама куды дзенься, няма гдзе ўзяць гроша на патрэбу. А цяпер вось прыслалі нам некай атруты на мышэй па пачку на кожную хату; ня гледзячы, хто мае дзесяць дзесяцін і хто мае адну дзесяціну, усё роўна па два злоты з хаты. Тую атруту і мышы ядуць, і ня труцяцца, і нічога ня здыхае; усяго адно ў нас па 2 злоты здохлі!

Як прывёз нам солтыс гэную атруту, то прыносіць кожнаму ў вароты і дае; а калі мы, сяляне, не хацелі браць, то ён кідаў на двор і сам нёс далей хоўную сявеньку пачкаў. А вось цяпер кожную нядзелю не дае нам супакою: як настане дзень ад самай раніцы ходзіць па падвоканьню, зьбірае грошы нашы патручаныя. А калі хто кажа: „пачакай, бо цяпер няма,—аддам некалі!“ — то ён кажа: „глядзі, каб ня каяўся: тады, як прывяду „ганчара“, то дасі сем злотых, калі цяпер няма два!“.

Сьляза Хлюпічаніна.

# Беларусы ў Латвіі.

## Гадавы сход сяброў сельска-гаспадарчага т-ва „Араты“.

27-га студзеня г. г. ў Дзьвінску адбыўся гадавы сход сяброў беларускага сельска-гаспадарчага т-ва „Араты“. Ня гледзячы на дрэнную дарогу і няцэнтровасьць мейсца скліканьня сходу, на сходзе было прысутных шмат сялян, што, запраўды, даказвае папулярнасьць арганізацыі „Араты“, а асабліва папулярнасьць тых мэтаў якія ставіць сабе гэтая арганізацыя.

На сходзе былі прыняты 144 новыя сябры і вырашаны цэлы рад важных для сялянства пытаньняў.

## Беларускі Фольклёр.

Ужо тры гады пры Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі істнуе гурток для зьбіраньня беларускіх песьняў, апавяданьняў, прыказак і г. д. За гэты час сабрана на Люцыншчыне, Ілукшчыне і ў Дзьвінскім павеце больш 600 песьняў, да 70 апавяданьняў і шмат прыказак і прымет.

## У Дзьвінскім Аддзеле Беларускага Тэатру.

Ня гледзячы на цяжкое матэрыяльнае палажэньне й недахоп артыстычнай сілы, Дзьвінскі Аддзел Беларускага Тэатру ў Латвіі вядзе шырокую працу. І трэба адзначыць, што вынікі гэтае працы даюць пэўнасьць думаць, што „Беларускі Тэатр ў Латвіі“ — арганізацыя бязумоўна жыцьцёвая.

З адбыўшыхся пастановак трэба адзначыць:

1) спэктакль у Кокінскай беларускай пачатковай школе, на якім была вельмі добра разыграна п'еса „Чорт і баба“,

2) спэктакль у мяйсцовым клюбе, які ладзіўся на карысьць бедных вучнаў беларускае гімназіі, на якім была пастаўлена п'еса „Жаніцьба па радыё“ і

4 і 5) дзьве пастаноўкі ў сяле Шкельтава, Дзьвінскага павету. Былі разыграны п'есы: „Сватаньне“, „Зьбянтэжаны Саўка“, „Пасланец“ і „Чорт і баба“. Апошнія дзьве пастаноўкі былі зроблены на карысьць Шкельтаўскай царквы па просьбе царкоўнае рады.

Зараз рыхтуюцца да пастаноўкі „Птушка шчасьця“, „Калісь“ і „Шчасьлівы муж“.

# Паштовая скрынка.

**Іл. Т-ко, Баранав. пав.** Прысланае атрымалі. Дзякуем. Выкарыстаем.

**Ц. Ар. Наваградзкі пав.** Вітаем вашу пастанову адкрыць гурток Т-ва. Газэту высылаем.

**Ул. Камароўскаму, в. Мікалаеўшчына, Стаўпецкага пав.** Верш атрымалі. Слабы па форме. Газэту высылаем.

**Нехведовічу, Св-у і іншым нашым падпішчыкам.** На пытаньні ў Рэдакцыю падаем некаторыя адрасы павятовых выбарных камітэтаў № 41 (Беларускіх сялян і работнікаў) у Лідзкім вокрузе:

**Маладэчна**, Замковая 23, Беларуская Кнігарня, а такжа вул. Міцкевіча 13.

**Валожын**, Рынак № 4. Беларуская Кнігарня.

**Ліда**, Замковая вул. № 8. Беларусная Кнігарня.

**Гурток Т. Б. Ш. у Хлюпічах.** Газэта вам пасылаецца акуратна і з Вільні напэўна выходзіць. Значыць, яе затрымліваюць на вашай пошце. Падамо скаргу да вышэйшае паштовае ўлады.

**Грыгору Яйсону ў Браслаўшчыне.** Вы жаліцеся на свайго „бацюшку“, што ён ня толькі ўзяў шмат грошы за вянец, але йшчэ перад самым вянчаньнем павялічыў цану супроць умовы. Вы кажаце, што „ацец“ Фірсан тлумачыцца, што ягоныя калегі па фаху ў Чэрасі, Леанполі і Узьлянах бяруць яшчэ балей. Ну, маральная цана ім, відаць, зусім аднолькавая!

Што-ж датычыць дзесяціграшовых мэдалікаў, за якія бяруць па злотаму, дык гэта, пэўне-ж, зусім няпрыстойная спэкуляцыя. Няхай-жа ім будзе сорамна за гэта!

**Сьвянцянскаму выбаршчыку.** Аб тым, ці будуць скасаваны сьвянцянскія выбары, ня ведаем; тое, што разгляд жалабы на іх у найвышэйшым судзе адкладзены, як быццам суліць скасаваньне. Калі справа вырашыцца, дык тады й выкарыстаем вашу карэспандэнцыю, у якой вы жаліцеся на бяздзеяльнасьць пасloў-беларусаў з вашага вокругу.

**Ад наступных асоб грошы атрымалі:** Васіленя Язэп—3 зл. 50 гр., Бортнік Павал—2 зл., Макарэня Мікалай—2 зл., Бабіч Макар—1 зл. 50 гр., Косяк Пётр—1 зл. 50 гр., Алексяёнак Сымон—3 зл. 50 гр., Крупскі Дзям'ян—1 зл. 50 гр.

(Працяг у наступным нумары).

## Гармадзяне.

калі хочаце, каб ваша газэта выходзіла акуратна —

**прысылайце падпісныя грошы!**

# Беларуская Кнігарня

Беларускага Выдавецкага Таварыства

**(Вільня, Вострабрамская вул. № 1).**

**суліць наступныя кніжкі:**

(Працяг).

**Ільляшэвіч Хвёдар.** „Веснапесьні“. Выданьне I-ае. Вільня—1929 г. Выдав. Ільяшэвіч Ніны. Стар. 71. Цана 1 зл.

**Улад. Ініцкі.** „Клім—Бабаю“ і іншыя жарты. Выданьне I-ае. Вільня—1929 год. Выд. Знамяроўскага і Будзькі. Старонак 32. Цана 45 гр.

**Улад. Ініцкі.** „Сон Гаўрылы“ і розныя вершы. Выданьне I-ае. Вільня—1928 год. Выд. Знамяроўскага. Стар. 32. Цана 45 гр.

**Jöergeusen J.** „Prypowieści“. Pierakłaŭ na biełaruskuju mowu X. P. T. Wilnia—1927 hod. Wyd. „B. Krynicy“. Star. 50. Цана 50 гр.

**Караленка Ул.** „Сьляпы Музыка“. З расейскае мовы пералажыў Краўцоў Макар. Выданьне I-ае. Вільня—1928 год. Віленскае Выдав. Б. Клецкіна Старонак 163. Цана 3 зл. 10 гр.

**Караленко Ул.** „Судны дзень“ (Іом-кіпур). Украінская казка. Выданьне I-ае. Вільня—1928 год. Віленскае Бел. Выд. Т-ва. Стар. 87. Цана 1 зл.

**Ul. Kazłoŭščyk.** Biełaruskija narodnyja pieśni z sakolskaha pawietu, Wilnia—1930 h. Wyd. „Biełaruskaj Krynicy“. Star. 39. Цана 30 гр.

**Якуб Колас.** „Сымон Музыка“. Поэма. Вільня—1928 г. Выд. Таварыства „Пагоня“. Стар. 211. Цана 2 зл. 80 гр.

**Колас Якуб (Міцкевіч Канст.).** „Новая зямля“. Поэма. Кніжка I. Выданьне III ае. Вільня—1928 г. Выдав. Адбітка з „Народу“. Стар. 124. Цана 1 зл. 50 гр.

**Колас Якуб (Міцкевіч Канст.).** „Новая зямля“. Поэма. Кніжка II. Выданьне IV-ае. Вільня—1928 г. Стар. 186. Цана 80 гр.

**Колас Якуб (Міцкевіч Канст.).** „Новая зямля“. Поэма. Кніжка III. Выданьне IV ае. Вільня—1929 г. Стар. 295. Цана 1 зл. 50 гр.

**Колас Якуб (Міцкевіч Канст.).** „Выбраныя творы“. Угодкавае выданьне I-ае. Вільня—1927 г. Віленскае Бел. Выд. Т-ва. Старонак 78. Цана 2 зл. 50 гр.

**Купала Янка.** „Шляхам жыцьця“. Выданьне II-ое папраўленае. Вільня—1923 г. Віленскае Выд. Б. Клецкіна. Старонак 263. Цана 5 зл. 10 гр., у вокладцы 6 зл. 10 гр.

**Купрын А.** „Алеся“. Апавяданьне. Вільня—1923 год. Віленскае Выд. Б. Клецкіна. Стар. 83. Цана 1 зл. 55 гр

**Łastoŭski W.** „Prypieŭki“ (Pieśni-Piesień). Wilnia—1918 hod. Star. 32. Цана 30 гр.

**Лермонтаў М.** „Дэмон“. Пераклад з расейскае мовы Макара Краўцова. Вільня—1926 г. Віленскае Белар. Выд. Т-ва. Стар. 44. Цана 70 гр.

**Лермонтаў М.** „Мцыры“. Пераклад з расейскае мовы Краўцова М. Вільня—1924 год. Выд. газэты „Змаганьне“. Старонак 41. Цана 40 гр.

**Лёсік А.** „Ня ўсё-ж разам ягомосьці!..“. Вільня—1914 год. Віленскае Бел. Выд. Т-ва. Стар. 32. Цана 50 гр.

(Працяг будзе).

**ПАВАЖАНЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ!**

**Хто ня прыслаў грошы на падпіску і ня зробіць гэтага да канца месяца, тым будзе спынена высылка газэты.**

*Адміністрацыя.*

Падпішчыкі, якія прышлюць падпісную, плату на газэту „НАПЕРАД“ ня менш як за паўгода, ДАРМА атрымаюць

**Беларускі месячны настольны календар**

на

**1930 год.**

Календар зьмяшчае ў сабе:

сельска-гаспадарчыя парады на кожны месяц. Асобна каштуе 50 грош., з перасылкаю 70 гр, заказною перасылкаю 1 зл. 20 грош.

Выпісваць можна з Беларускай Кнігарні— Вільня, Вострабрамская № 1.

Рэдактар-Выдавец: М. Сіняўскі.

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.